

VERTIGO

VAUGHAN • PARLOV • MARZAN JR.

# Y THE LAST MAN

issue 23 Aug 04 SUGGESTED FOR MATURE READERS vertigocomics.com




Y - апошні мужчына
№23 (2002)
Пераклад і афармленне: Сяргей Козыраў.
Арыентавана на дарослых чытачоў




Квінсбрук, Арызона
Зараз







=ххххxф=


Ох.
Ох, курвіска.


Гэта... Гэта **ты** вінавата, сучка! Гэта ўсё з-за **цябе**!
Я не хацела **падстрэліць** твой азадак!


Праклён.
Праклятая лоевая малпа зрабіла з мяне...
iiiii


Што за?..




УДОВІНА ЦЯСНІНА

# Widow's Pass

## Conclusion


Brian K. Vaughan writer
Goran Parlov guest penciller
Jose Marzan, Jr. inker
Clem Robins letterer
Zylonol colorist
Massimo Carnevale cover artist
Casey Seijas ass't editor
Will Dennis editor


Y: The Last Man created by Brian K. Vaughan and Pia Guerra










З кім ты, чорт пабяры, размаўляеш?





Слухай сюды, я ўжо выслала сваю дачку на пошукі астатніх чальцоў тваёй каманды.
Калі яна вернецца назад і скажа нам, што ты схлусіла наконт **астатніх** федэралаў, я пратыкну гэтай штукай твае вялікія карыя **вочы**.
Я ўжо казала табе, я **не** федэральны агент. Мы з доктарам Ман **медыкі**, а тут мы з гуманітарнай місіяй.




Ды ну? Тады я ўпэўнена, ты лёгка адкажаш на пытанне з майго першагадзічнага экзамена па падрыхтоўцы **медыцынскіх сясцёр**.
Напрыклад, пацыенту выпісалі 1000 мл раствора Брынгера на пяць прыёмаў, якая будзе норма ўвядзення?
...




200 мілілітраў у гадзіну.
І гэта раствор **Рынгера**, а не Брынгера.
















*Станцыі суцяшэння - бардэлі, якія дзейнічалі ў 1932-1945 гг. на акупіраваных японцамі тэрыторыях ва Усходняй і Паўднёва-Усходняй Азіі, якія абслугоўвалі японскіх салдатаў і афіцэраў.


Я што, адгадала?
Ты **блефавала**?

Проста здагадка, зыходзячы з некатораых ведаў. Мая маці была дыпламаванай медсястрой.
Часам яна брала мяне з сабой на працу. Я тады ўжо валодала фатаграфічнай памяццю, але не была ўпэўнена наконт...
Ты... Ты **ніколі** не разказвала пра сваю сям'ю, 355. Ня ведала, што твая маці звязала з **медыцынай**.

Была звязана. Яна памерла, калі мне было ўсяго восем. Разам з бацькам і маёй маленькай сястрой.
Аўтавыпадак.

Мне... Мне шкада.

Мне так шкада...




Я не збіраюся паўтараць двойчы, дамачка.
З кім ты, **чорт бяры**, размаўляеш?


Я не дамачка.


І я размаўляю са сваёй **малпай**.
Але ён **проста** малпа. Ён не разумее мяне. І гэта **мая** віна. Я... Я не дрэсіраваў яго як след.
Маці божа...


Ты...
Ты жа...


Божа, я цяпер нават і не **п'яны** зусім.
**Ніколі ў жыцці** ня быў настолькі цвярозым. Я зараз, нават, проста **ўвасабленне** цвярозасці.


Магу я спытаць, колькі табе гадоў?
Ты выглядаеш занадта маладой для **забойцы**.
Не... Тая дзяўчуха накінулася на **мяне**! Я **абаранялася**!


Яна не была «дзявухай».
Яе звалі Пі-Джэй, яна грала на басухе і напраўляла машыны, і...
Ды запхніся ты ўжо!


Ага, ты прама як мая сястра.
Яна таксама забіла нявінную жанчыну.
*ррррр!*


Трымай гэтую істоту, інач я...
Ведаеш, у мяне была магчымасць узяць з сабою зброю, калі я пакідаў Бруклін, але ў мяне тады і думках не было, што, магчыма, прыйдзецца абараняцца ад такіх, як ты.
Глупа, так? У той жа час я нават і ня думаў, што жанчыны наогул валодаюць зброяй.


Але гэтыя апошнія некалькі месяцаў сталі сапраўднай школай жыцця.


Кінь яго!
Кіну. Аднару пасля таго, як ты кінеш сваю.
Калі ласка, я не хачу...


BANG
BANG





Нам трэба пагаварыць, 355.
Секунду, доктар. Пі-Джэй казала, у лагеры ўсяго восем жанчын, правільна?
Дачка Джой пайшла ў дазор, яшчэ дзве ў моргу, застаецца ўсяго **пяць** чалавек. Калі я змагу правільна разлічыць час...




355, няўжо ты не пыталася ў сябе, чаму я **працягвала** падманваць табе пра кланіраванне маёй «хворай пляменніцы»? Нават **пасля** таго, як я даведалася, што ты не збіраешся арыштаваць мяне за мае эксперыменты?
Гэта таму, што я не хацела, каб ты лічыма мяне **звар'яцелым навукоўцам**. Ведаю, гэта падзіцячы, але я... Я хацела табе **спадабацца**.
Ты і **так** мне падабаешся, Элісан.






Пачакай.
У сэнсе... Спадабацца ў сэнсе **спадабацца**?




Божа, ты нават ужо пачынаеш **казаць**, як Ёрык.
Я хацела сказаць, я заўсёды ведала, што ты... Ну, **ты зразумела**, але я ніколі ня думала, што ты зацікаўлена ў...
Вы, абедве, усё яшчэ гуляеце ў дактароў?


Бо прыйшоў
час прыняць
вашыя лекі.


Калі ласка.
Можаце і далей катаваць мяне, але адпусціце маю... маю **партнёрку**.


А няўжо хтосьці казаў пра катаванні?


Растрэльная каманда?
Якое зараз **стагоддзе**?


Не хвалюйся, яны ня лепшыя нашыя **стралкі**, але павінны зрабіць гэта адносна **хутка**.
Апошнія словы, федэрал?
Ок, didigo idigany idigof yidigou spidigeak gidigibbidigeridigish?


I што, чорт бяры, **гэта** значыць?
Idigalligisadigon pridigetidigend tidigo bidige **sidigick**, idigand dridigop tidigo idigall fidigours.
Кажы **па-ангельску**, сучына...


Ridigight.
Хэй, толькі паспрабуй званітаваць на мае...


Унф!


Падыміце ж...

Мне шкада.

BLAM

Анжэліна!


Ай!


BLAM
BLAM
BLAM
Не!


Апусці гармату, чорт бяры!
Апусці,
інач я...


BLAM


Ахxx


355?!
Што **адбываецца**?
Усё ў парадку, Элісан.
Усё **скончылася**.


Я... Я магу зняць сваю павязку?
Не.

Не, ня трэба.



Праз тры гадзіны

Ёрык?


Ёрык, што **здарылася**?


355, док.
Дзяўчаты... вы ў **парадку**?


Што гэта, Ёрык?
Дзе Пі-Джэй?
На яе **напалі**. Адна з гэтага вайсковага лагера. Яны... Яны **застрэлілі** адна адну.


Я хацеў зрабіць што-небудзь, але... Але Амперсанд сцягнуў і **згубіў** пісталет, які ты мне дала, таму ўсё, што мы маглі зрабіць, гэта схавацца.
Я такі баязлівец, я...


Што за глупствы, Ёрык.
Ты ўсё зрабіў правільна.


Што наконт вас?
Дзе вы **былі**?
Раскажам табе па дарозе да Сан-Францыска, да лабараторыі доктара Ман. Ня хочу затрымлівацца тут ні на секунду.


Але той **блокпост**...
Разблакіраваны.
Пі-Джэй аддала сваё жыццё недарэмна. І-40 адчынена, цяпер мільёны людзей зноў змогуць атрымліваць ежу.


Божа, колькі яшчэ жанчын павінна **загінуць**, каб мы змаглі іх **выратаваць**?
Мне вельмі шкада, Ёрык.
Усё гэта пачалося з таго, што я не сказала вам з 355 усю **праўду**. Але я абяцаю, з гэтага моманта...


...больш ніякага падмана.




# Олдэнбрук, Арызона
# Зараз

Калі ласка, цішэй, нястрыманая блізнятка.

Я чую нейкі шум, а гэта мая праца, абараняць вас ад...

Наталля, Кіба толькі што **нарадзіла**!


Тая жанчына-астранаўт?
Але яе дзіця...


...з'явілася на некалькі дзён раней, чым планіравалася.
У адно імгненне доктар Вэбер уваходзіць у лабараторыю, а ў наступнае - дзіця ўжо паказала **галоўку**! Ніколі ня бачыла такіх спакойных і лёгкіх...
У? У? У? І? І? І?


І ўсё ў парадку.
Яе **сын** у парадку.


Жывы?! Мужчына, здольны дыхаць, выйшаў з вагіны!
Spasibo! Iisus Hristos! Slava Bogu!
Эм. Так!
Але мы павінны будзем трымаць хлопчыка ўнізе, у гарачым комплексе, па-куль не **ўдасканалімся**, што акаляючае асяроддзе яму не пагражае. Мы з сястрой лічым...


Прашу прабачэння.

Мяне завуць Хіроў.

Я вось усё разважаю, ці можаце вы мне сказаць, дзе, курвіска, мой **брат**?



# ПАДТРЫМАЙ МЯНЕ НА PATREON

**www.patreon.com/comicsby**

Твая падтрымка дапаможа мне праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў падтрымкі на patreon:

Афіцыйны патрон

**3 $**
ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

Афіцыйны патрон атрымлівае спасылку на рэліз перaклада **на 1 месяц раней**, чым падпішчыкі ў сацыяльных сетках.

- На 1 месяц раней, чым усе

Патрон з падпіскай прэміум

**5 $**
ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

**Патрон з падпіскай прэміум** атрымлівае спасылку на рэліз новых серый **на 1 год раней**, чым падпішчыкі сацыяльных сетак.

Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «Цуда-жанчына», «Дарт Вэйдэр», «Чорны молат», «Дэпартамент праўды» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці патронаў з падпіскай прэміум.

Так сама атрымлівае ўсё тое, што і **Афіцыйныя патроны**.

- На 1 год раней, чым усе
- На 1 месяц раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў

## Мае мэты:

**100 патронаў** -
я найму перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
я ствару выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.